Гарачая кропка

# КОСАВА: вытокі канфлікту

Балканскі паўвостраў — дзіўны і шмат у чым загадкавы край. Край, дзе марскія хвалі сутыкаюцца з берагам, дзе сучаснасць сутыкаецца з мінуўшчынай, еўрапейскі Захад — з азіяцкім Усходам і дзе вострыя цені мінарэтаў засцяць ад вока крыжы хрысціянскіх храмаў. Там, на Балканах, з даўніх часоў сышліся не толькі бітыя шляхі з Еўропы ў Азію, але і геапалітычныя інтарэсы вялікіх дзяржаў, там спляліся ў адзін клубок міжканфесійныя звадкі, міждзяржаўныя спрэчкі, старыя крыўды, а таму на Балканах і дагэтуль няма міру, і канфлікт у Косава з'яўляецца толькі фрагментам, чарговым звяном бясконцага ланцуга войнаў, закалотаў і акупацый, якія скаланалі тую зямлю на працягу апошніх стагоддзяў.

Расійскія, а следам за імі і беларускія СМІ, апавядаючы пра Косава, не стамляюцца сцвярджаць: албанцы з'явіліся ў згаданай правінцыі пасля другой сусветнай вайны. Нібыта маршал Ціта выгнаў адтуль праваслаўных сербаў і засяліў край прывезенымі з Албаніі мусульманамі. Таму перш-наперш трэба разабрацца — хто каго і куды перасяляў і ці адпавядаюць такія сцверджанні гістарычнай праўдзе.

Працяглы час пра Албанію і яе насельнікаў мала што было вядома. Краіна горных арлоў была ізаляваная ад вонкавага свету і таму яе называлі не іначай, як "чорнай дзіркай" у цэнтры Еўропы. Між тым шчыптары (так сябе называюць албанцы) — адзін з самых старажытных еўрапейскіх народаў, яны вядуць свой радавод ад ілірыйскіх плямёнаў і з'яўляюцца аўтахтонным насельніцтвам Албаніі і заходняй часткі Косава. Па сведчаннях гісторыкаў, ілірыйцы (племянны хаўрус дарданаў) апанавалі тэрыторыю Косава прыкладна ў 1800 годзе да нашай эры, тым часам як сербы прыйшлі ў тыя мясціны не раней за VII стагоддзе нашай эры.

Доўгія стагоддзі продкі сучасных албанцаў і сербаў жылі разам, а калі весці гаворку аб іхняй канфесійнай прыналежнасці, дык у сярэднявеччы і першыя, і другія былі хрысціянамі. Так што косаўскія храмы XII стагоддзя, якія сербы любяць паказваць замежнікам, зусім не сведчаць аб спрадвечна сербскім характары Косаўскага краю.

На пачатку XV стагоддзя тэрыторыя Косава падпала пад уладу туркаў, але і пасля гэтага касавары — косаўскія албанцы — доўгі час заставаліся хрысціянамі. Масавы іх пераход у іслам распачаўся толькі ў XVII стагоддзі.

Югаслаўскія гісторыкі ў сваіх працах ствараюць яшчэ адзін міф — пра тое, што пасля прыходу турэцкіх заваёўнікаў албанцы адразу ж сталі іхнімі цівунамі, дапамагаючы акупантам задушваць вызваленчую барацьбу іншых балканскіх народаў. На самай справе шчыптары неаднаразова ўздымаліся супраць асманскага валадарства, і цэнтр гэтай барацьбы, прынамсі ў другой палове XIX стагоддзя, знаходзіўся ў Косаве. Менавіта тут у 1878 годзе была ўтворана так званая Прызрэнская ліга, якая паставіла за мэту вызваленне Албаніі з-пад асманскага ярма і якая была задушаная туркамі.

Толькі ў 1912 годзе Албанія здабыла незалежнасць, але межы новай дзяржавы, з ласкі Лонданскай канферэнцыі амбасадараў, правялі бязладна, без уліку арэалу рассялення албанцаў, і вызваленая ад туркаў тэрыторыя Косава была далучаная да Сербіі. Сталася так таму, што за спінаю сербаў стаяла царская Расія, а інтарэсы албанцаў ніхто з вялікіх дзяржаў абараняць не пажадаў.

У складзе каралеўскай, а затым камуна-цітаўскай Югаславіі касавары спаўна зведалі, што такое сербскі шавінізм. Ну а непасрэдна далучэнне Косаўскага краю да Сербіі прайшло пад знакам гвалтоўнай дэпартацыі з родных мясцінаў прыблізна 400 тысяч мусульманаў. І хаця дэпартаваных, якіх перасялялі ў Турцыю, называлі туркамі, гэта былі ў асноўным косаўскія албанцы. У наступныя гады сербскі, а затым югаслаўскі ўрад былі апанаваныя ідэяй высялення ў Турцыю рэшты касавараў, а вядомы югаслаўскі гісторык Васа Чубрылавіч нават напісаў на гэты конт адпаведны мемарандум, у якім тэарэтычна "абгрунтаваў" ідэю масавых дэпартацый.

Этнічныя чысткі ды гвалтоўная славянізацыя краю не прайшлі дарма: вясной 1941 года касавары хаця і без асаблівай радасці, але даволі прыязна сустрэлі новых акупантаў — італьянскіх фашыстаў. Ну а калі Мусаліні, іграючы на нацыянальных пачуццях шчыптараў, далучыў значную частку Косава і Заходнюю Македонію да акупаванай італьянцамі Албаніі, маладыя касавары гамузам сталі ў шэрагі арганізаваных "макароннікамі" нацыянальных вайсковых фарміраванняў. Сталі, праўда, не ўсе. Значная частка албанцаў падалася ў горы і ў той жа год усчала партызанскую барацьбу з акупантамі. Змагаліся партызаны з цвёрдай упэўненасцю, што пасля перамогі албанцы Косава і Албаніі будуць жыць у адной дзяржаве. Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, канферэнцыя антыфашысцкіх сіл Косаўскага краю, якая сабралася ў апошні дзень 1943 года і прыняла рэзалюцыю аб далучэнні Косава да Албаніі.

Адразу ж пасля вайны цітаўцы жорстка расправіліся не толькі з калабарантамі, але і з тымі албанцамі-антыфашыстамі, якія выступалі за стварэнне Вялікай Албаніі. Аж да пачатку пяцідзесятых гадоў па горных дарогах гойсалі джыпы югаслаўскай службы бяспекі і баракі Голага Вострава — канцэнтрацыйнага лагера, у якім Ціта гнаіў ворагаў "народнай улады", — штораз папаўняліся збітымі да паўсмерці албанцамі. Ну і, вядома, ні пра якія "вялікія перасяленні народаў" на той час не магло быць і гаворкі, амаль да лета 1948 года, пасля канфлікту між СССР і Югаславіяй, албана-югаслаўская граніца была цалкам зачынена.

Намахаўшыся рэпрэсіўным бізуном, камуністычны дыктатар кінуў касаварам надгрызены пернік — надаў краю аўтаномны статус у складзе Сербіі. Аднак аўтаномія тая мела фармальны характар: албанцы па-ранейшаму заставаліся палітычна бяспраўнай нацыяй, а Аўтономная вобласць Косава і Метохія — так пасля вайны называлася косаўская зямля — па-ранейшаму заставалася самай занядбанай, глухой і эканамічна адсталай югаслаўскай правінцыяй. Усе камандныя пасады ў Косаве займалі сербы, касавараў з неахвотаю прымалі ў шэрагі Саюза камуністаў Югаславіі, а ўсе албанскія грамадскія суполкі і аб'яднанні знаходзіліся пад пільным наглядам югаслаўскіх спецслужбаў. Штогод, ратуючыся ад беспрацоўя, тысячы маладых касавараў ад'язджалі на заробкі ў краіны Захаду. Прычым улады не толькі не чынілі перашкод, але і ўсяляк спрыялі працоўнай эміграцыі. У выніку на Захадзе знайшлі сабе прытулак 140 тысяч албанцаў. І тыя двух- і трохпавярховыя дамы касавараў, якія штораз паказвае беларускае тэлебачанне, пабудаваны не за югаслаўскія крэдыты, а за долары і маркі, якія прысылалі з-за мяжы эмігранты.

У сярэдзіне 60-х гадоў, калі палітычная атмасфера ў Югаславіі набыла больш лагодны характар, албанцы пачалі патрабаваць ад улад рэальнай аўтаноміі для свайго краю. Пачатак масавых выступленняў прыпаў на лістапад 1968 года, калі дзесяткі тысяч шчыптараў маніфеставалі на вуліцах косаўскіх гарадоў. Ад тае пары выступы косаўскіх албанцаў набылі перманентны характар, і састарэлы маршал Ціта апынуўся перад дылемай: альбо ўжыць рэпрэсіі і такім чынам пазбавіць Югаславію заходняй дапамогі, альбо ўтварыць у славянскай краіне неславянскую рэспубліку, якая не сёння дык заўтра паспрабуе выйсці са складу федэрацыі. У рэшце рэшт змучаны косаўскімі закалотамі Ціта прыняў саламонава рашэнне: падпісаў праект Канстытуцыі Сацыялістычнага Аўтаномнага краю Косава, паводле якой край хаця і заставаўся ў складзе Сербіі, але атрымліваў практычна такія ж правы, як і югаслаўскія рэспублікі.

Смерць Ціта сталася пачаткам новага этапу албана-сербскага супрацьстаяння. У сакавіку 1981 года ў адной з прышцінскіх сталовак пабіліся два студэнты — серб і албанец. Такія бойкі звычайна заканчваліся, у горшым выпадку, гузакамі. Гэтым разам усё скончылася трагедыяй. Бойка справакавала сутычкі паміж сербамі і албанцамі — у выніку некалькі албанцаў былі застрэлены сербскай паліцыяй і яшчэ сотні паранены. Аналагічныя падзеі надарыліся ў 1987 годзе. На шматлюдных мітынгах албанцы рашуча запатрабавалі рэспубліканскага статусу для Косава, але на той час уладу ў Белградзе ўжо апанаваў Слабадан Мілошавіч — кіраўнік дыктатарскага кшталту, — і Косава, з ягонай ласкі, не толькі не атрымала рэспубліканскага статусу, але і згубіла статус аўтаноміі. У сакавіку 1989 года сербская Скупшчына скасавала Канстытуцыю Косава, зліквідавала аўтаномію і абвясціла край інтэгральнай часткай Сербіі. У тыя дні — 27 і 28 сакавіка — у Прышціне, Мітровіцы, Дэчане ды іншых косаўскіх гарадах прайшлі дэманстрацыі пратэсту, якія былі расстраляныя сербскай паліцыяй. Сербскія кулі абарвалі жыцці 22 дэманстрантаў. Сакавік 1989 года і стаў зыходным пунктам развіцця новачаснага косаўскага канфлікту.

Далейшыя захады Белграда з поўным на тое правам можна назваць генацыдам албанскага насельніцтва: албанцы былі выкінуты з мясцовых адміністрацый, пачалі зачыняцца албанскія школы, гарады і мястэчкі апанавалі паліцэйскія аддзелы і атрады сіл адмысловага прызначэння, у выніку чаго на працягу 1989 года папоўніўся спіс забітых і параненых дэманстрантаў. У адначассе сербы разгарнулі ў Косава — краі, на 90 працэнтаў населеным албанцамі, — своеасаблівую "культурную рэвалюцыю", укараняючы ў монаэтнічным рэгіёне двухмоўе ў яго югаслаўскім варыянце. У выніку албанцы вымушаныя былі стварыць уласную сістэму школьнай адукацыі, і заняткі ў новым вучэбным годзе пачаліся на прыватных кватэрах, у пунях, а то і проста пад адкрытым небам.

Арганізацыяй школ справа не скончылася. У снежні ўсё таго ж 1989 года ў Прышціне была ўтвораная першая албанская партыя — Дэмакратычная ліга Косава, а на наступны год разагнаны Мілошавічам косаўскі парламент сабраўся ў мястэчку Качанік і прыняў Дэкларацыю аб незалежнасці Рэспублікі Косава. Неўзабаве незалежнасць была пацверджана рэферэндумам, а ў 1992 годзе адбыліся новыя парламенцкія і прэзідэнцкія выбары, на якіх перамог лідэр Дэмакратычнай лігі доктар Ібрагім Ругова.

Ніводная краіна свету не прызнала новай рэспублікі, але прэзідэнт Ругова распачаў актыўную дзейнасць на міжнароднай арэне. Белградскія ўлады не надта перашкаджалі такой дзейнасці і мелі рацыю. Прэзідэнт самаабвешчанай рэспублікі — перакананы прыхільнік Гандзі: для яго непрымальныя сілавыя метады ў палітыцы. Таму Ругова быў і застаецца для сербаў не самым вялікім злом. Тады, у пачатку дзесяцігоддзя, Мілошавіч баяўся, што на змену Ругове прыйдуць лідэры радыкальнага кшталту. У рэшце рэшт такія лідэры прыйшлі: імі сталі палявыя камандзіры ўтворанай у сярэдзіне 90-х гадоў Арміі вызвалення Косава (АВК).

Напачатку гэтая вайсковая арганізацыя абмяжоўвала сваю дзейнасць дробнымі тэрарыстычнымі актамі супраць сербскай паліцыі, але летась, здабыўшы зброю, стала рыхтавацца да шырокамаштабных вайсковых дзеянняў.

Дзейнасць такую справакавалі самі сербы. Вясной мінулага года яны акружылі вайсковую базу АВК у горнай мясцовасці Дрэніца, а затым, пасля штурму, забілі 80 албанцаў, сярод якіх былі і мірныя жыхары. Пасля дрэніцкай аперацыі ў Косаве распачалася сапраўдная вайна, падчас якой сотні людзей — у асноўным албанцы — былі забітыя, тысячы параненыя, дзесяткі тысяч дамоў былі спаленыя сербамі, і не меней як 300 тысяч касавараў засталіся без даху над галавой.

Характарызуючы сённяшнюю сітуацыю ў Косаве, можна сказаць толькі адно: сітуацыя гэтая тупіковая. Нашчадкі іліраў, са свядомасці якіх яшчэ не выветрыўся звычай кроўнай помсты, ніколі не даруюць Мілошавічу забойства албанцаў. А таму першаасновай мірнага ўрэгулявання павінна стаць адстаўка гэтага адыёзнага палітыка і зыход з палітычнай сцэны ягоных паплечнікаў.

Ну а тым, хто заклікае абараняць братоў-сербаў усімі наяўнымі сродкамі, варта нагадаць словы Святога Пісання: няма ні эліна, ні іудзея. Ёсць проста людзі. І абараняць трэба перш за ўсё тых, хто церпіць гвалт і хто хоча жыць у міры і спакоі на сваёй роднай зямлі.

**Вінцэсь МУДРОЎ, старшыня грамадскай суполкі "Беларусь—Албанія".**

Странный народ, однако...

## Терпишь побои — не имеешь права на развод

Недавно суд египетского города Александрия принял оригинальное решение. Отныне женщина, которая в течение пяти лет терпела побои мужа и ни разу не обратилась с жалобой в суд, не имеет права на развод. Потому что если в течение столь долгого времени жена терпела жестокого мужа, то сможет терпеть его всю жизнь.

## В армию послал... компьютер

10-месячный младенец из итальянского городка Ремини получил на днях повестку из военкомата. Ему предписано явиться на призывную комиссию. Родители, явно не готовые к проводам сына в армию, обратились в муниципалитет за разъяснениями. Оказалось, что это ошибка, которую допустил компьютер.

## Сам убил человека, но потребовал компенсацию за несколько зубов

Осужденный на 18 лет тюрьмы за убийство полицейского англичанин подал встречный иск и выиграл процесс против МВД. Дело в том, что во время ареста стражи порядка выбили ему несколько зубов, один из которых был с золотой коронкой. Отсидев три года, преступник вдруг стал добиваться справедливости и потребовал компенсировать ему "потерянные" зубы и стоимость испорченной в полицейском участке одежды. Суд иск убийцы удовлетворил. Назначена компенсация — 100 фунтов.

## Интуристы с криминальным уклоном

За последние 6 месяцев в Стамбуле за отсутствие паспортов, кражи, наркотики, мошенничество, незаконное трудоустройство и проституцию задержано 1.360 иностранцев — преимущественно выходцев из СНГ, Румынии, Ирана, Ирака и Нигерии. Некоторые "интуристы" оказались причастны к 12 убийствам.

## В Кельне чужие деньги никому не нужны

В банки не верят не только жители постсоветского пространства, но и немцы. Так, одна 89-летняя фрау предпочла хранить свои сбережения (218.600 марок) в банке из-под кофе, спрятанной в кухонной плите. Неожиданно старая женщина попала в больницу, а домовладелец решил, пользуясь ее отсутствием, сделать в квартире ремонт. Рабочие и наткнулись на сокровища в плите. Нетрудно догадаться, что случилось бы с деньгами, если бы фрау жила в Минске, Киеве или Москве. А в Кельне чужие деньги никому не нужны. Странный народ эти немцы, однако...

*Марыя ВАЙЦЯШОНАК*

# Асеннія птахі

*Апавяданне*

*Пісьменніца Марыя ВАЙЦЯШОНАК нарадзілася ў Алтайскім краі, куды ў 1939 годзе былі сасланы з Пастаўшчыны яе бацькі. Там яны і загінулі.*

*Марыя выхоўвалася ў дзіцячых дамах Змяінагорска (Алтай), Масквы, Ракава (Валожынскі раён). Завочна скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт, працавала настаўніцай на вёсцы, карэспандэнтам у рэспубліканскай "Сельской газете", у часопісах "Неман", "Беларусь", газеце "Літаратура і мастацтва".*

*Марыя Вайцяшонак — аўтар зборніка нарысаў "Сярод блізкіх людзей" (1988 г.), апавяданняў "Жанчына каля люстэрка" (1993 г.). Жыве ў Мінску. А сцежкі любові пісьменніцы — на Пастаўшчыне, у вёсцы Грыдзькі, дзе жыла яе цётка Марыля, сялянка. Ад яе Марыя пераняла багатую родную мову, народную культуру. І наогул яна лічыць тутэйшых людзей сваім галоўным універсітэтам — універсітэтам дабрыні, існасці, прыгажосці.*

*"Народная воля" распачынае сёння публікацыю цыклу апавяданняў Марыі Вайцяшонак з новай кнігі "Сад нявіннасці".*

Яна выходзіла з пад'езда, сумкі ў абедзвюх руках звялым скрыллем да самай зямлі. Ідзе ўкрадаючыся, бы з чужога дома, стала, азіраецца — ці бачыў яе хто. Прыгнуўшыся, ступіла ў цемру, як пад абложанае неба.

— Ніна! — заву, ідучы дадому.

Куды гэта стары чалавек пайшоў унаначкі? Добра ведаю, яна пачула, пэўна, спынілася, — зусім жа блізка. Але не азвалася. Стаіць, пэўна, смяецца з мяне недзе на мяжы святла і цемры. І як заўсёды ў спрэчках скажа аднымі вуснамі, запэўніваючы: "Маўчы, маўчы, ты жызні не ведаеш...".

Позні вечар насупіўся, непрылюдна мільгне зрэнкай адзіная лямпачка. Сквер, куды пайшла Ніна, не асветлены, як той лес, цёмным гушчаром адразу за нашым домам. Недзе побач, а можа, якраз і на гэтым самым месцы, горад калісьці пахаваў хутар Мадзвежына, паклаўшы яму пад голаў вехаць цыкоры. Улетку цыкора ўзыходзіць, падымаецца высока, але мала хто ведае ейную назву. Блакітныя зіхатлівыя кветкі сярод цёмнай травы, пылу невядомым, густым сузор'ем. Першы снег увосень, абы да яго дакранулася сонца — толькі трэба лучыць, заспець, — на імгненне запахне вялымі кветкамі. Тут, кажуць, быў вялікі белы сад. Калі палягуць снягі, такія вузкія сцежкі ад дому да дому, хоць ты вітайся з незнаёмым чалавекам, цесна размінаючыся, як не абхапіўшы адзін аднаго рукамі, каб не паваліцца.

Позна ўвечары гэтым чорным часам ідзеш насустрач незнаёмаму сцяўшыся, як на мядзведзя.

Яшчэ раз удалося ей схавацца ад людзей. Усё ж меней будуць ведаць, што яна гандлюе на вакзале півам, гарэлкай, цыгарэтамі... Уся ў цёмным, ужо яна пляча ў пляча з ноччу, нічога не баіцца, усё роўна, калі што якое, то і рукой не адпіхнеш — рукі занятыя. Ужо яна адной парой з тымі, хто пакідае цемрай, як пацук, падвалы, цёплыя вуглы кацельні, ідзе "на паляванне". А варта стаць побач з бабамі на вакзале, абавязкова каторая адцісне яе з бойкага месца, як не прызнае ад учарашняга. Усё яна тут ім новенькая быццам. Можа, таму, што так пужліва азіралася, калі хто перацягне мацюком. Драбніўся позірк на мелкія шкельцы. Тады яшчэ ніжэй насоўвала хустку на лоб і паліто апранала пушчэйшае. Ей цяпер і бутэльку пустую могуць аддаць у рукі, спагадаючы. Але ж і міліцыя забірае без следства, раз бабка ноччу на вакзале. Круціш галавой, як пеленгатарам, каб не папасціся, каб паспець уцячы за вугол. Апранулася неяк чысцей, вусны намалявала, да такой, вядома, маёр міліцыі не падыдзе, не западозрыць, што таргуе. Але ж і п'яніца не спыніцца. Вось і згадай, што лепей. Спасцігалася хітрая навука малога бізнесу. Што, хіба вунь тая, на рагу. Мышкай завуць, худзізна, уся цыгарэтамі абверчана, а не пазнаеш — нарадзілася і адразу ў торг?! Тая дзе мацюкамі, дзе на каленьках перад міліцыянерам, каб не забраў, кожнага дагоніць на вакзале, прымусіць купіць. Выручку мае зайздросную, Ніне такое і не сніцца.

Ледзь-ледзь затрымлівалася над бяздоннем вакзальнага гвалту, бязбожжа. "Тамара, — сказала неяк сяброўцы, — давай крыжыкі надзенем на шыю, інакш — прападзём..." Гудок цягніка глушыў галасы. Яна разам з ад'язджаючымі бегла па перону, спадзеючыся добра ўтаргаваць. На нейкі момант выдавалася, што гэта якраз ейны вагон. Здэйся, усё б кінула, села б і паехала адсюль у сваю вёску, да пляменніцы, жыла б у катушку, абы на зямлі, сярод сваіх. І адведаць хацелася б. Вось толькі шкада, што новую газавую пліту яшчэ не атрымала, абяцалі ў домаўпраўстве памяняць. Штодзённыя клопаты мелі вялікую сілу, каторы ўжо раз зміналі на дарозе да вёскі, затрымлівалі. І вазоны на вокнах без яе пасохнуць. Слаба і цвітуць, яна пачапляла на іх чырвоныя ліхтарыкі сухога Фізаліса, усё ж весялей. Калі ў доме адныя свары, у ім пасяляецца нячыстая сіла, чула па радыё. Нават умывальнік ніхто з сантэхнікай не можа адрамантаваць, слініцца вада і слініцца. Маўляў, не кватэра, а неспрыяльная зона...

Адышоў цягнік, разышліся людзі. На пустым пероне па свежаму павольна ішла нейкая старая, кіем падымала, пераварочвала скамечаную паперу, шматкі імпартных упаковак. І другая за ёй — асеннія людзі, як птушкі па полі ўслед за вiруючым жыццём.

— Ого-го-го! — калоціцца Ніна ад радасці, смяецца, сустрэўшыся ў калідоры. — Я знайшла сёння харошую хустку на вакзале!

Глядзі, дзівіся, і людзі ішлі ўперадзе і не заўважылі! Такая неспадзяванка! Яна заўсёды нешта знаходзіць. Мы разам з ёй не думаем аб тым, хто згубіў, хто панёс страту. Можа, каму і не вядома гэтае дзіцячае пачуццё: заціснуты босай нагой толькі што ўпушчаны некім рубель у краме. Тым больш, калі ты ад нараджэння ясі, сілкуешся не са стала, як людзі, а з зямлі, з шуметнікаў. І цяпер яшчэ поўнае валлё каменьчыкаў, жвіру ад той пары. Тая радасць заўсёднай перашкодай паміж табой і людзьмі, якія маюць што згубіць, зблоціць ці проста выкінуць.

У доме асцерагаліся Ніінай шчырасці. Перахопіць каго ў калідоры і трымае з паўгадзіны. Той ужо просіць змілавацца, каб карацей гаварыла, маўляў, надта спяшаецца, няма часу бавіцца.

— Не магу табе карацей! Ну во такі хлеба кавалачак ці так чаго адрэзаць — паказвае на дзвярах пальцам, — а гэта ж размова, як адрэжаш?

— Во, здумала, што мяса ейнае з балкона ўкралі! А там балкон — толькі кату перайсці! — злавіла яшчэ гарачую плётку адной старой суседкі на другую, кінула аб зямлю, і больш няма чаго гаварыць.

Вось яна ўжо некаму і злосніца! Спяшаліся абысці, калі яна, стоячы ў калідоры, жалілася ўсім спарадку на свайго Андрука:

— Я трыц-цаць гадоў толькі гэта чую!

Слёзы раптоўныя, з сухіх вачэй, быццам гэта ўпершыню чутае, — першым дажджом пасля спёкі на сухую дарогу, людзям пад ногі. Рукі да твару, уся сціснецца, плача ціхенька, пасіроцку, бы дзіця ў кутку чужога дому. Нехта з маладых суседак раіць ёй зрабіць завіўку, падмодзіцца, маўляў, можа б мужчына палепшаў да яе.

— Аніколі! Ён не бабнік! — злуецца Ніна. — Мая завіўка, мая ўся харашба — гэта тое, што я яму смачна ежу строю!

І бярэцца тачыць нож аб прыступкі лесвіцы. Не памятае, каб яна калі была свайму Андруку за жонку. О, мужчына пад чаркай! Дзікім хмелем завіваюцца ягоныя кучары. Які ён вольны і вясёлы, як блізка, увесь час наўмя, ягоныя моцныя жаданні! Хмелевай лазой выцінаецца побач... Такога Ніна не зведала. Андрук чайнік з кіпенем на пліце забудзецца выключыць, спаліць дашчэнту, затое ўспомніць ёй п'яны найдрабнейшую нікчэмніцу, абы каб толькі пасварыцца. Цела ейнае асядала пустой, халоднай мураванкай, адныя блакітныя вочы блішчэлі нясцерпна чыста, ніколі не хаваліся за аканіцамі, бы сонца навылёт ад усходу да захаду.

Пустазеллем цвіла навокал ясная цыкора, ей таксама невыносны цень...

Не злучана яна з Андруком, не ейная гэта палавіна, да крыку даходзіць, гвалтам крычыць у калідоры, аж на вуліцы. Ідуць людзі, азіраюцца, стыдаючыся. А яна знаходзіць усё новыя і новыя доказы супраць мужчыны, быццам ён злодзеем праз вакно залез у ейнае жыццё. І яна сама не ў сваю долю трапіла. Ратуйце, лавіце яго! Не прызнае Ніна гэтыя гарадскія сцены, гэтыя дзверы, скрозь праходзіць ейнае асабістае, жаночае. А калі ў вас і ціха, нічога не чуваецца, то гэта вы проста стаіліся са сваёй нядоляй. "І ты няшчасная.." — скажа суседцы знянацку, спачуваючы ёй, як сабе. Тая потым далёка будзе яе абыходзіць, баючыся аднязначнасці. Чалавек звычайна падумае так аб сваёй долі толькі ў горкую гадзіну, у гадзіну адчаю. А не штодня.

— Чулі? Чыталі? Паліцыянт забіў учора дзяўчынку з аўчаркай! — пераймае.

Навошта, Ніна, увесь час пра благое ды яшчэ з самай раніцы? Век у брыдоце, адкажа, колькі жыве. Ёй, маўляў, лягчэй, калі і другія ў горы, у няшчасці. Ёй тады свайго жыцця не так шкада, калі разам з усімі. Як у вайну ўсё роўна.

Шчаслівых яна не бачыла.

Хоць ты запытайся: ці заўважаў хто з суседзей, што ходзяць каля ейнай кватэры надзіва лёгка, не адчуваючы адчужанасці? Быццам увесь час адчыненыя ейныя вокны, дзверы, у пакоях заўсёды чыста, і толькі скразняк гойдае фіранкі, як у той песні. Выкрычыцца, выплачацца, справіць абедню па ўсіх, хто курчыцца ў адзіноце. І мы, сустрэўшыся ў калідоры, лягчэй загаворваем адзін да аднаго. Не аб сабе, вядома, — аб Ніне, зноў, маўляў, напіўся ейны. Але ж хоць гаворым, хоць вітаемся. Іншы раз выдаецца, што яна ўвесь час на парозе. Здалёк пачуўшы Ніну, ужо ў калідоры быццам скідаеш з сябе цяжкую барму. Як бывае, калі ідзеш з аўтобуса да сваёй вёскі. За ліпамі ў лагу заплача кнігаўка. Адразу падумаецца: вось ты і дома.

Сумная птушка пры тваёй дарозе.

Але няма ёй куды зайсціся, перасядзець, пакуль Андрук заціхне, абасне. Тады яна аднойчы ўзяла ў рукі сумачку, паклала бутэльку гарэлкі і — на вакзал. І ўжо ёй быццам прычына — і работа, і капейка. Абы сысці. Цяпер яна сама хавалася ад людзей, бо набыла тое, што лічыла найбрыдчэй за ўсё на свеце. "Маўчы! Маўчы!" — скажа, пужаючыся самой сябе, варта толькі запытальна паглядзець ёй у вочы.

Вернецца з вакзала звычайна паўначой, у доме ціха — якая пара, адныя павукі начным страхам кратаюцца на дне ванны, спусціўшыся па ваду.

(Заканчэнне на 4-й стар.)

Скандал

## Украли... почку

Известно, что воруют все, что плохо лежит. Часто воруют и то, что лежит хорошо. Но даже на этом фоне всеобщего грабежа происшествие в госпитале Сан-Пауло (Бразилия) выглядит экстраординарным: родители 15-летней девочки обратились в полицию с жалобой на то, что у их дочери украли... почку.

Как сообщило отделение регионального совета по медицине, Люси-Мария Сантос обнаружила, что у нее только одна почка, в прошлом году, когда проходила обследование по поводу повышенного кровяного давления.

Родители Люси-Марии обвиняют врачей госпиталя Сан-Пауло в том, что они удалили их дочери почку во время операции в 1988 году, когда извлекали из почек камни. В истории болезни записано, что девочка поступила на операцию с двумя почками.

Директор госпиталя отрицает, что во время операции Люси-Марии была удалена почка. Расследованием пропажи "собственности" занимаются сразу два ведомства: уже упомянутый региональный совет по медицине и полиция. Совет затребовал из госпиталя все документы, касающиеся юной пациентки и проведенной ей операции, а также намерен выслушать показания всего оперировавшего ее медперсонала.

Если будет обнаружено нарушение "этических принципов" (так скромно медицинские власти именуют удаление у пациента почки без его ведома), то хирургу грозит наказание в диапазоне от простого предупреждения до аннулирования лицензии на работу по специальности.

Однако если правоохранительные органы найдут, что было совершено преступление, то виновных ожидает куда более суровое наказание.

В Бразилии давно ходили слухи о существовании преступной сети из врачей и контрабандистов, поставляющих на бурно расцветающий рынок человеческие органы для трансплантации. Однако все проводимые расследования не выявили достаточных улик.

В январе в Бразилии вступил в силу новый закон, согласно которому все граждане страны автоматически становятся донорами органов после их смерти. Нежелающие стать таковыми должны иметь специальную запись в своем удостоверении личности или водительских правах.

Целью закона является расширение возможностей получения органов для трансплантации. Однако некоторые врачи отказываются следовать вызывающему споры законодательству и извлекают здоровые органы умерших пациентов только с согласия их родственников.'

## В Лондоне не хотят иметь дело с "грязными" деньгами...

Лондон намерен разом лишить налоговых уклонистов (какой бы национальности они не были) возможности размещать средства на Британских островах.

Банкам Великобритании и национальным финансово-инвестиционным фондам будет запрещено проводить операции по зачислению на свои счета финансовых средств из-за границы, если отправитель денег документально не подтвердит оплату налоговых сборов с соответствующих сумм в своей стране. Сообщившее об этом Министерство финансов Объединенного Королевства не назвало точную дату, когда распоряжение вступит в силу, но предупредило, что это случится в ближайшее время. За нарушение этого требования сотрудникам финансовых учреждений будет грозить не административное, а уголовное наказание.

Британские банковские учреждения обязаны будут сообщить о всех переводах денег из-за границы в Национальную криминальную разведывательную службу, к компьютерным сетям которой подключается налоговый департамент Великобритании. Эта организация будет дополнительно анализировать поступающую информацию. Если какой-то перевод (даже сопровожденный необходимыми справками — а без них даже и не стоит думать об отправке денег в Британию) все же покажется местным налоговикам подозрительным, они будут уведомлять о таких случаях власти страны, откуда произведен сомнительный перевод финансовых средств. Данная мера принимается для усиления борьбы с незаконным оборотом денег и уклонениями от уплаты налогов, в том числе за границей.

После вступления этой драконовской меры в силу не надо будет удивляться, если окажется, что ваш родной налоговый инспектор осведомлен о состоянии вашего зарубежного счета гораздо лучше, чем вы рассчитывали. Офшоры, правда, еще никто не отменял. Деньги, переведенные не прямо в Англию, а через "налоговый оазис", все же из поля зрения отечественных собирателей налогов исчезают. Пока их британские коллеги не придумают еще чего-нибудь новенького.

## Лужков не потерпит баркашовцев

Юрий Лужков заявил, "что никакого съезда РНЕ в Москве не будет". Так он отреагировал на сообщение пресс-службы РНЕ о намерении провести съезд организации в Москве в апреле этого года. Лужков пообещал, что городские власти решат этот вопрос "любыми способами: путем спокойных предупреждений или силовых действий", которые воспрепятствуют "баркашовцам" провести съезд в столице. И заверил, "что ничего "баркашовцы" в Москве проводить не будут".

## В год россиянину нужно 177 кг хлебопродуктов

Постановлением правительства Российской Федерации утверждена методология расчета потребительской корзины для населения России и отдельных социально-демографических групп — трудоспособных граждан. Потребительская корзина для трудоспособного мужчины содержит следующие минимальные нормы потребления продуктов питания в расчете на год — 177 кг хлебопродуктов, 150 кг картофеля, 91,8 кг овощей и бахчевых, 18,6 кг свежих фруктов, 20,8 кг сахара и кондитерских изделий, 34,8 кг мясопродуктов, 14,7 кг рыбопродуктов, 217,3 кг молока и молочных продуктов (включая животное масло и сыр), 180 яиц, 13 кг растительного масла, маргарина и других жиров, 4,88 кг прочих продуктов (соль, чай, специи).

## "Ситуация требует неординарных мер..."

На заседании Кабинета министров Чечни Масхадов заявил, что не намерен более обращаться в парламент с просьбой утвердить в должностях министров, которые с середины прошлого года являлись исполняющими обязанности. И, утвердив правительство своей волей, покончил с правительственным кризисом, продолжавшимся около восьми месяцев. Сегодняшние меры не согласуются с действующей Конституцией, однако в скором времени завершается работа над новым проектом Основного закона, в котором, по предварительным данным, вряд ли вообще останется место для парламента в том виде, в каком он существует в настоящее время. По чеченскому обыкновению, все решается фразой: "Неординарная ситуация требует принятия неординарных мер".

## Юлий Рыбаков полагает...

Новоизбранный председатель партии "Демократическая Россия" Юлий Рыбаков полагает, что его партия станет костяком создаваемой правоцентристской коалиции "Правое дело". По его планам, коалиция должна создать в преддверии парламентский выборов единый фронт и в случае успеха на выборах стать в Государственной Думе РФ "мощной фракцией". Руководитель же московского отделения партии Дмитрий Катаев среди политических оппонентов "Демроссии" наряду с "национал-коммунистами, партией власти" назвал и "группу номенклатурного капитала". "Эта группа выступает за либеральные реформы, демократию. Но номенклатурному капиталу это необходимо в той степени, в какой эти ценности обслуживают его интересы. Капиталу выгодно сотрудничать с правительством потому, что значительная часть бюджета попадает в его распоряжение". Рыбаков тут же уточнил, что партия заявляет о своей оппозиции "правительству коммунистического доверия", возглавляемому Евгением Примаковым.

